# МЕНСКАЯ ГРАМАДА

Палітычна-грамадзкая газэта

№ 1(6)

ЛІПЕНЬ 1994 г.

Кошт - 200 рублёў




3 ліпеня, у дзень 50-годзьдзя вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, сябры БНФ і Беларускага дэмакратычнага згуртаваньня ветэранаў вайны і працы скіраваліся да манумента Перамогі, каб ускласьці вянок у памяць тых, хто загінуў у змаганьні з фашызмам. Але шлях ім перагарадзілі ваяўнічыя камуністычныя ветэраны і бравыя хлопцы з АМОНу, якім улады загадалі «стальною грудью встречать врага». А старшыні Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў незалежнай Рэспублікі Беларусь таварышы Грыб і Кебіч прайшлі да манумента ў калоне пад чырвонымі і чырвона-зялёнымі сьцягамі былых СССР і БССР.

**На здымку:** шчыльныя шыхты АМОНаўцаў (вядома ж, не на абароне Менска ў 1941 годзе, а 3 ліпеня 1994 года) перад манументам Перамогі.

## ПРА СПЕКУЛЯЦЫІ ВАКОЛ ПАЗІЦЫІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА

### Заява Выканаўчага Камітэта Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады

У той час, як урад Кебіча прыняў захады дзеля ліквідацыі грашова-фінансавай сістэмы краіны і падпарадкавання яе суседняй дзяржаве, Нацыянальны банк Беларусі і старшыня яго праўлення Станіслаў Багданкевіч занялі прынцыповую пазіцыю ў абароне нацыянальных інтарэсаў. Гэтая пазіцыя сустрэла шырокую падтрымку прыхільнікаў незалежнага курсу сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі, усіх прагрэсіўна настроеных грамадзян. У адказ праўрадавыя колы, пракамуністычныя і камуністычныя арганізацыі ўзнялі лямант пра тое, што на Станіславе Багданкевічу ляжыць віна за грашова-фінансавы крызіс.

Паставіўшы праблему з ног на галаву, праўрадавыя колы ўвесь час узмацняюць ціск на Нацыянальны банк, патрабуюць ад яго новых незабяспечаных крэдытаў у суме 500 мільярдаў рублёў. Ім патрэбныя «пустыя» грошы, каб хоць неяк датрываць да прэзідэнцкіх выбараў. Адначасова яны патрабуюць, каб С.Багданкевіч зняў свае пярэчанні адносна зліцця банкаўскіх сістэм Беларусі і Расіі.

Тым часам фінансава-эканамічны крызіс узмацняецца. Расце дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту. У гэтым умовах урад рыхтуе чарговую эканамічную правакацыю — павышэнне мінімальнай зарплаты. Эфект ад гэтай меры будзе толькі адмоўны. Услед за ростам заробку рэзка ўгору падскочаць цэны.

Выйсце з крызісу — толькі на шляху эканамічных рэформаў. Вопыт Эстоніі, Латвіі і Літвы паказвае, што краіны, якія вядуць палітыку рэформаў, могуць пераадолець крызіс у параўнальна кароткі тэрмін.

Выступаючы ў падтрымку пазіцыі Нацыянальнага банка і Станіслава Багданкевіча, сацыял-дэмакраты звяртаюць увагу ўсіх грамадзян Беларусі на тое, што пагаршэнне жыцця народа ёсць прамы вынік непрафесійных дзеянняў урада Кебіча.

31 мая 1994 г.

## ГЕРАСТРАТАМ НЕ СПАЛІЦЬ БЕЛАРУСЬ!

Калі паспрабаваць прымераць прэзыдэнцкую мантыю айчынным кандыдатам, якія адметныя сваёй цемрашальскай альбо недакладна акрэсьленай грамадзкай пазіцыяй, то выявіцца наступнае.

Паміж вядомым графам і вусатым парторгам-дырэктарам занядбанага саўгаса як ахвотнікаў да прэзыдэнцкага стырна дзяржавы ў самым асяродку Еўропы выявіцца шмат агульнага. І найбольш агульнага — у іхняй правінцыйнасьці і авантурнасьці. Бог абдзяліў Беларусь разважным начальствам, як распавядае прытча слыннага паэта, але такога, не птушынага, а хутчэй курынага палёту на палітычным алімпе дзяржавы з тысячагадовай гісторыяй яшчэ не было. Што казаць пра ўзровень

(Заканчэньне на стар. 2)

## ДРУГОЕ ВЫДАНЬНЕ КНІГІ ПРА КУРАПАТЫ

Выйшла ў сьвет другое выданьне кнігі «Курапаты: артыкулы, навуковая справаздача, фотаздымкі», аўтарамі якой зьяўляюцца З.Пазьняк, Я.Шмыгалёў, М.Крывальцэвіч, А.Іоў. Першае выданьне гэтай кнігі выйшла ў Нью-Ёрку на сродкі беларускай дыяспары пры дзейсным удзеле сп.В.Кіпеля. Пры выданьні кнігі ў Беларусі было нямала цяжкасьцяў — матэрыяльнага, тэхнічнага і, галоўным чынам, палітычнага характару. Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» з-за нейкіх сваіх меркаваньняў усё адкладала выданьне гэтай кнігі. Але гэтую праблему вырашыла не дзяржаўнае, а незалежнае выдавецтва «Тэхналогія».

13 чэрвеня ў цэнтралі Беларускага Народнага Фронту адбылася прэзэнтацыя кнігі пра Курапаты. Кіраўнік «Тэхналогіі» В.Багдановіч у сваім выступленьні зазначыў, што супрацоўнікі выдавецтва ганарацца выданьнем гэтак неабходнай для Беларусі кнігі. Выступілі таксама аўтары кнігі, амерыканскі выдавец першага выданьня В.Кіпель, дзяячка таварыства «Мартыралог Беларусі» М.Кляшторная. Неабвержнасьць фактаў, выкладзеных у кнізе, падкрэсьліў у сваім выступленьні З.Пазьняк. Ён сказаў, што нават сьледчыя, якім быў дадзены ўрадавы «сацыяльны заказ» давесьці, што ніякіх бальшавіцкіх расстрэлаў у Курапатах не было, сутыкнуўшыся з жудаснымі матэрыяламі, адмаўлялісяісьці супраць фактаў і свайго сумленьня.

Кніга выдадзена на дзьвюх мовах — беларускай і ангельскай.

## БЧС — ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЕЎРОПА Ў XXI СТАГОДЗЬДЗІ

На Беларусі завяршылася першая ў яе гісторыі прэзідэнцкая кампанія.

Сілы наменклатуры, якія ўдзельнічалі ў першым туры выбараў былі падзелены на 4 часткі: перш-наперш «наш любимый Вячеслав Францевич» — гэта буйная наменклатура, якая і праводзіць так званую «прихватизацию». З другога боку «былы камуніст за дэмакратыю» Аляксандр Лукашэнка, які аб'яднаў тых, хто не хоча працаваць, а жадае зноў сьпяваць знаёмую песьню «Мой адрес не дом и не улица, мой адрес — Советский Союз». Найбольш кансерватыўныя камуністычныя сілы прасталінскай накіраванасьці ўзначаліў Васіль Новікаў, а вясковых старшынь калгасаў і саўгасаў, асабліва з Гродзеншчыны і Берасьцейшчыны, аб'яднаў пад сваім штандарам Аляксандр Дубко. Гэтыя два апошнія ў выніку першага тура праваліліся.

У праграмах усіх чатырох аб лёсе Беларусі ў наступным стагоддзі шмат агульнага, бо ўсе бачаць Беларусь як і раней, моцна прывязанай да Расіі. Толькі адны мараць зноў вярнуць СССР, другія вядуць гаворку аб саюзе «трох славянскіх рэспублік», а трэція згодны ісьці ў Расію на правах «Северо-Западного края».

Асабліва ім не падабаецца ідэя Балтыйска-Чарнаморскай садружнасьці, выказанай і распрацаванай парламенцкай апазіцыяй на платформе БНФ яшчэ ў 1990 годзе. Якраз восеньню 1990 г. у Менску, у будынку Савета Міністраў БССР адбылася нарада на гэту тэму з удзелам дэпутатаў ад БНФ, Народнага фронту Латвіі, «Саюдзіса» і ўкраінскага Руху. Былі выпрацаваны накірункі агульнай працы па рэалізацыі гэтай ідэі, якая, нягледзячы на моцнае супрацьдзеяньне шматлікіх мясцовых і замежных палітычных рухаў, пакрысе рухаецца наперад.

І менавіта рэалізацыі вышэйзгаданага праекта, як «нячыстая сіла — крыжа», баяцца праваднікі імперскай палітыкі пэўных колаў сёньняшняй Расіі. Дастаткова толькі пагартаць некаторыя беларускія газеты: «Звязда» ад 1 чэрвеня 1994 г. З выступленьня Старшыні Саўміна Беларусі сп.В.Кебіча на мінскім маргарынавым заводзе... «Цяпер коратка аб нашых агульных праблемах.

Разарваныя эканамічныя сувязі, і ў першую чаргу з Расіяй, паставілі нас у вельмі складаныя ўмовы дэфіцыту практычна ва ўсім.

А дзе выйсьце? Будаваць перспектыўныя «балтыйска-чарнаморскія» утопіі, чакаць дапамогі ад Захаду, як прапануюць некаторыя нашы палітыкі?

«Фемида» N 21, 30 мая — 5 чэрвеня 1994 г. З артыкула віцэ-прэзідэнта Саюза прадпрымальнікаў Беларусі, пісьменьніка-фантаста А.Патупы «Выборы президента и центристский выбор»: «Прямо скажем, что наша страна сохранила наиболее высокий уровень диалога с Россией среди других республик бывшего СССР. Возвести свои претензии и обиды на принципиальную высоту не так уж трудно. Одно только выталкивание из рублевой зоны чего стоит... Но повернись мы к России спиной, практически неизбежно возникла бы ‹ Черноморско-Балтийская полоса». Суверенные западные границы Росии — голые. На юге — полыхающий Кавказ, весьма специфические напряжения на рубежах казахстанско-среднеазиатского региона, заметно увеличивающаяся

(Заканчэньне на стар. 3)

## СВАБОДА, РОЎНАСЦЬ, САЛІДАРНАСЦЬ

Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада (БСДГ) заснавана ў сакавіку 1991 г. Папярэднікамі БСДГ былі Беларуская Сацыялістычная Грамада (1903 — 1918 гг.) і Беларуская дэмакратычная партыя (1918 — 1924 гг.). Заслугай беларускіх сацыялістаў з'яўляецца абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г.

Першым старшынёй Цэнтральнай рады БСДГ быў вядомы беларускі вучоны і палітык Міхась Ткачоў. Яго пераемнікам на гэтай пасадзе стаў народны дэпутат Беларусі Алег Трусаў. Дэпутацкая фракцыя Грамады ў Вярхоўным Савеце налічвае 12 чалавек. Сярод іх Віктар Аламліеў, Мікалай Крыжаноўскі, Анатоль Вярцінскі, Віктар Какоўка, Яўген Цумараў, Леанід Дзейка і інш. Сацыял-дэмакраты ёсць сярод дэпутатаў абласных, раённых, гарадскіх і сельскіх Саветаў. Старшыня Мінскай гарадской філіі БСДГ Анатоль Гурыновіч з'яўляецца намеснікам старшыні Мінгарсавета, а сябра Цэнтральнай Рады Мікалай Статкевіч — старшынёй патрыятычнага руху «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў». Суполкі і філіі БСДГ дзейнічаюць ва ўсіх абласцях і большасці гарадоў рэспублікі. Колькасць сяброў Грамады дасягае 1500 чалавек. У шэрагах партыі шмат інжынераў і тэхнікаў, выкладчыкаў і настаўнікаў, кваліфікаваных рабочых і прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, людзей з вучонымі ступенямі кандыдатаў і дактароў навук.

Партыя сацыял-дэмакратаў у сучасны перыяд выконвае тры функцыі: ліберальную, уласна сацыял-дэмакратычную і патрыятычную. Ліберальная функцыя Грамады заключаецца ў тым, што мы актыўна выступаем за радыкальнае рэфармаванне эканамічнага жыцця Рэспублікі. Як сацыял-дэмакраты, мы безумоўна выказваемся за абарону правоў і жыццёвых інтарэсаў чалавека працы. Патрыятычная функцыя Грамады ў тым, што мы баронім суверэнныя правы народа Беларусі, Беларускай дзяржавы, яе незалежнасць.

### НАШЫ ПРЫНЦЫПЫ — СВАБОДА, РОЎНАСЦЬ, САЛІДАРНАСЦЬ

**СВАБОДУ** мы разумеем як права чалавека быць вольным у вызначэнні свайго лёсу, вольным у выбары, вольным ад палітычнага, адміністрацыйнага прымусу. **СВАБОДУ** як павагу да думкі і правоў меншасці — нацыянальнай, сацыяльнай, палітычнай, рэлігійнай.

**РОЎНАСЦЬ** мы разумеем як раўнацэннасць усіх людзей, як перадумову свабоды і свабоднага развіцця чалавека.

**САЛІДАРНАСЦЬ** мы разумеем як выяўленне ўзаемасувязей людзей, як асноўную ўмову выжывання чалавечага роду. Спагада, спачуванне, узаемная павага складаюць аснову САЛІДАРНАСЦІ.

**БЛІЖЭЙШЫЯ ЗАДАЧЫ** — актыўны ўдзел у выбарах новага Вярхоўнага Савета з мэтай:

— адхілення ад улады пракамуністычнай наменклатурнай праслойкі;

— правядзенне радыкальных эканамічных рэформ, фармавання шматукладнай рыначнай эканомікі;

— жорсткай барацьбы са злачыннасцю, выкаранення карупцыі;

— сацыяльнай абароны людзей наёмнай працы пры асаблівай увазе да пенсіянераў, хворых, інвалідаў, дзяцей і моладзі.

**Нашы адрасы і тэлефоны:**

**Штаб-кватэра Грамады:** 220026, Мінск, Партызанскі праспект, д. 83, кв. 53

Тэл. 46-46-91, факс 45-78-52

Для лістоў: 220026, Мінск, а/с 129.

**Філіі:** г.Гродна — 33-67-06, 5-26-05; г.Пінск — 4-18-90; г.Віцебск — 5-95-47; г.Гомель — 56-72-33; г.Брэст — 3-98-88; г.Жлобін — 2-44-65; г.Магілёў —

# МІФЫ ЗАСТАЮЦЦА ТОЛЬКІ МІФАМІ

У 60 — 70-ых гадах я працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру Акадэміі навук БССР. Тады давялося пабываць у навуковых экспедыцыях у многіх раёнах Беларусі і нават на Смаленшчыне —колішняй этнічна беларускай зямлі. Там ужо амаль не чулася беларускае слова — увесь край быў зрусіфікаваны за дзесяцігодзьдзі панаваньня бальшавізму. Тут я ўбачыў, што гэтае самае чакае і ўсю нашу Беларусь, дзе інтэнсіўна, гвалтоўна праводзілася «слияние наций и языков» пад выглядам т.зв. «интернационализма». Пад гэтым тэрмінам крыўся агрэсіўны расейскі шавінізм, насаджэньне нацыянальнага нігілізму, бяспамяцтва, зьнішчэньне нацый.

Маўчаць пра гэта было немагчыма. І таму я на розных нарадах, паседжаньнях стаў адкрыта выступаць у абарону роднай мовы, нашай беларускай культуры. Наколькі магчыма было, выступаў і ў друку. Пасьпеў надрукаваць артыкулы па нацыянальным пытаньні ў «ЛіМе», «Полымі», «Нёмане» і іншых газэтах і часопісах. І ня толькі я адзін выступаў у абарону нашай культуры.

Усе гэтыя людзі, пра якіх будзе далей, у сваіх інстытутах, на паседжаньнях вучоных саветаў супраціўляліся русіфікацыі. Дайшло нават да агульнага сходу АН БССР. На ім Пятро Глебка сказаў:

«Як бы там ні было, але калі кажуць, што да 1917 года ў Беларусі не было дзяржаўнасьці, дык гэта хлусьня. Вазьміце проста любы энцыклапедычны слоўнік, дык убачыце, што княства —гэта ўжо дзяржава. А на Беларусі было шмат княстваў, як і ва ўсіх краінах, пакуль яны не аб'ядналіся ў дзяржавы. А такія княствы, як Полацкае і Нясьвіскае, якія ведала ўся Эўропа, і стварылі Вялікае княства Літоўскае, і сучасныя літоўцы (тады жмудзіны і аўкштэнцы) таксама там былі. Але гэта была беларуская дзяржава. Насельніцтва беларускае на 80 працэнтаў, дзяржаўная мова беларуская, войска яшчэ было беларускае (а гэта таксама галоўнае ў дзяржаўнасьці)».

Але не драмалі і цэкоўцы, і кадэбісты. Усе выступленьні ў друку і вусныя занатоўвалі, групавалі, сістэматызавалі. І прадставілі красавіцкаму пленуму ЦК КПБ у 1974 годзе, які быў прысьвечаны ідэялагічнаму пытаньню і на які сабраўся ўвесь партыйны і савецкі актыў.

І вось тут былі «выкрытыя» нацыяналісты, што «акапаліся» ў Акадэміі навук — Сьцяпан Міско з Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру, Мікола Прашковіч з Інстытута літаратуры, Міхась Чарняўскі з Інстытута гісторыі, Алесь Каўрус з Інстытута мовазнаўства і Валянцін Рабкевіч з Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Абвясьцілі нас нацыяналістычнай групоўкай, якая на сваіх «зборышчах» заклікала адарваць Беларусь ад СССР, выгнаць зь яе ўсіх расейцаў, яўрэяў і палякаў. Абвінавачвалі ва ўсіх тых грахах, што калісьці і беларускіх дзеячоў у 20-30-ых гадах, якіх гналі ў Курапаты або гулагі. Нас ні туды, ні сюды ўжо не маглі загнаць — не тыя часы былі.

Праўда, сьледчы КДБ капітан Шыбека, які вёў допыты пяць дзён, вельмі шкадаваў аб гэтым і проста гаварыў: «Жаль, что это не тридцать седьмой год, вы бы не так загудели». Шкадаваў і аб тым, што не ён дапытваў мяне ў 1964 годзе, а нейкі лагодненькі іншы афіцэр іхні. Тады кадэбісты дапытвалі мяне ў памяшканьні Савецкага РК КПБ. Пытаньні датычылі «нацыяналістычнай» групы ва універсітэце, групы, вядома, уяўнай, неіснуючай.

Самае галоўнае для сьледчых было «арганізаваць» нацыяналістычную групу. Бо групы гэтай не было. Былі людзі, якія турбаваліся за лёс сваёй Бацькаўшчыны, яе мовы, культуры. Нягледзячы на ўсю абсурднасьць намаганьняў сьледчых, нас пазвальнялі з працы, пакінулі без кавалка хлеба. Клеймвавалі нас на бюро і на пленуме.

Цэлую гадзіну чытаў мне натацыі П.М.Машэраў на бюро ЦК перад тым пленумам. Казаў, што праз некалькі гадоў беларуская мова наогул зьнікне, і што ў нас адзін савецкі народ, і што адзіная мова будзе, і ўсё падмацоўваў цытатамі: «В речи товарища Брежнева», «в духе установок товарища Брежнева», «говоря словами Леонида Ильича Брежнева», «благодаря основополагающим установкам речи товарища Брежнева на...». Гэтыя выразы знойдзеце ў любой ягонай прамове, у любой брашурцы праз кожныя дзьветры старонкі. Надта ж зьдзекаваўся: «Нашёлся «свядомый беларус». Поживешь два года без работы, вот посмотрим, как ты запоешь». Вось і ўся ягоная чалавечнасьць, пра якую так замілавана зюзюкаюць сёньня тыя, хто няблага прыладкаваўся і да карыта, і, вядома, да ўлады.

Найбольш цынічна Машэраў напіраў на мову. Дакладна памятаю, як ён зьедліва падкалоў: «Ты думаешь, если бы ты стал руководителем Белоруссии, так сразу все и заговорили бы на белорусском языке?» Усе, вядома, не загаварылі б, але ўсё чыноўніцтва праз два месяцы гаварыла б па-беларуску. Так зрабіла княгіня Радзівіл у 1918 годзе пасьля абвяшчэньня БНР. Яна загадала чыноўнікам ва ўсіх сваіх маёнтках праз два месяцы размаўляць і пісаць па-беларуску. Потым сама праверыла. І хто праігнараваў яе загад, дык перастаў быць чыноўнікам. Чаму ўсе заваёўнікі імкнуліся перавучваць людзей у забраных краях на сваю мову, дык гэта зразумела — тады не так кідаецца ў вочы: хто працуе, а хто пануе й рабуе.

«Нашёлся еще один Карпюк!» — чуліся рэплікі камуністычных інквізітараў. Справа ў тым, што перад гэтым яны ўзяліся былі шкуматаць пісьменніка Аляксея Карпюка. Чаго толькі не чаплялі на яго, чаго толькі не выдумлялі. Але нічога з гэтага не выйшла. І тады была пушчана пагалоска, што абараніў яго сам «Пётр Міронавіч»! Няпраўда ўсё гэта. Бо сам Аляксей Карпюк казаў мне, што дапамог яму ордэн «Віртуці Мілітары» — вышэйшая ўзнагарода Польшчы, якую ён атрымаў за баявыя дзеяньні ў час вайны.

Тое, што заслугі Машэрава цяпер стараюцца ўзьнесьці да нябёс, дык гэта міф, якіх нямала створана бальшавікамі. Паводле гэтага міфа даўно ўжо настаў час канізаваць яго, узьвесьці ў ранг сьвятога. Але міфы заўжды застаюцца толькі міфамі.

**Сьцяпан МІСКО, ветэран вайны і працы, кандыдат філалагічных навук**

# БЧС — ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЕЎРОПА Ў XXI СТАГОДЗЬДЗІ

*(Пачатак на стар. 1)*

прозрачность китайской границы..."

«Советская Белоруссия» 3 чэрвеня 1994 г. З публікацыі ўласнага карэспандэнта «СБ» В.Аўгарова «Кто вбивает клин?» «В качестве противовеса России предлагается учредить некое Балтийско-Черноморское сообщество государств. А временно находящиеся на территории Белоруссии стратегические силы России называются не иначе как »оккупационная армия", экономический и денежный союз з Россией — «аморальным и предательским шагом».

Усе гэтыя цытаты яскрава сьведчаць, што шаноўныя «господа-товарищи» вельмі напалоханы тым, што пасьля двухсотгадовага панаваньня Расіі і яе пераемніка СССР у Цэнтральнай Еўропе сітуацыя можа зьмяніцца і Беларусь зноў стане краінай арэалу заходнееўрапейскай цывілізацыі, якой яна і была з XI па XVIII ст.

Тысячу гадоў таму на ростанках воднага шляху з варагаў у грэкі нашы продкі стварылі першы правобраз будучай беларускай дзяржавы, які атрымаў назву Полацкая зямля. У часы Усяслава Чарадзея Полацкае княства замацавала за сабою выхад у Балтыйскае мора, а з XII ст. разам з Віцебскім і Смаленскім княствамі наладзіла цесныя гандлёвыя сувязі са знакамітым Ганзейскім Саюзам. Адначасова Турава-Пінскае княства было пасрэднікам у гандлі палачан з краінамі Прычарнамор'я і Блізкага Усходу.

У другой палове XIII ст. нашы продкі ствараюць чарговае дзяржаўнае ўтварэньне — Навагародзкую (Навагрудзкую) зямлю і запрашаюць на трон новай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Жамойцкага і Рускага — князя Міндоўга.

У канцы XIV ст. — пачатку XV ст. ВКЛ упершыню аб'ядноўвае ўсе этнаграфічныя беларускія землі і пашырае сваю прастору ад Балтыкі да Чорнага мора.

Аб'яднаўшыся з палякамі ў XVI ст. у федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую, беларусы цалкам уваходзяць у зону культурнага арэалу заходнееўрапейскай цывілізацыі і зьяўляюцца ўсходняй часткай заходнееўрапейскага сьвету да канца XVIII ст.

Аднак пасьля драпежніцкіх падзелаў Рэчы Паспалітай беларусы паступова губляюць сваю гістарычную назву «Ліцьвіны», альбо «Літва», і надоўга зьнікаюць з гістарычнай карты Еўропы.

Толькі падзеі 25 сакавіка 1918 г. вясновай маланкай высьвецілі перад чалавецтвам змучанае расейскім прыгнётам аблічча тагачаснага беларускага грамадства. Разам з іншымі прыгнечанымі народамі Цэнтральнай, Усходняй і Паўднёвай Еўропы Беларусь паставіла рубам пытаньне аб сваёй дзяржаўнасьці. Дзякуючы БНР беларусы ў складзе СССР атрымалі статус рэспублікі і такім чынам пазьбеглі канчатковай русіфікацыі і асіміляцыі.

Беларусь знаходзіцца на мяжы сутыкненьня эканамічных, палітычных і ваенных інтарэсаў Расіі і заходнееўрапейскіх дзяржаў блока НАТО, а таксама Польшчы. Доўгі час мы былі мостам з Усходу на Захад і праз нашу тэрыторыю адна за другой каціліся войны і рэвалюцыі. Сёньня, зыходзячы з пераваг палітыкі нейтральнай дзяржавы, мы павінны выступіць у ролі пасрэдніка ў адносінах Захад — Усход і такім чынам зьмяніць вектар накірунку геапалітычных сілаў, стаць зноў культурнай, эканамічнай і гандлёвай пляцоўкай для заходнееўрапейскіх тэндэнцый стварэньня аб'яднанай Еўропы ад Біскайскага заліва да Урала і Сібіры. Таму Беларусі вельмі важна, на мой погляд, пазьбягаць уваходжаньня ў розныя ваенна-палітычныя блокі і саюзы.

Лепей за ўсё ў сферы ажыцьцяўленьня зьнешнепалітычнай дзейнасьці нашай дзяржавы трымацца двухбаковых міжнародных адносін. На восі Захад — Усход мы павінны мець асобныя стасункі з Францыяй, Германіяй, Польшчай і Расіяй. Сярод трох вышэйзгаданых заходніх краін для нас вельмі важна мець грунтоўныя эканамічныя адносіны з Германіяй, дзяржавай, якая вылучаецца значнымі перспектывамі эканамічнага росту і мае ўстойлівую грашовую адзінку.

У дачыненьнях да Расіі трэба ўлічваць яе зацікаўленасьць мець на сваіх заходніх рубяжах дружалюбную славянскую дзяржаву, праз тэрыторыю якой праходзяць найбольш кароткія шляхі да рынкаў Цэнтральнай і Заходняй Еўропы. Галоўная мэта нашага супрацоўніцтва з гэтай вялікай дзяржавай — максімальнае аслабленьне эканамічнай (г.зн. сыравіннай і энергетычнай) і палітычнай залежнасьці ад яе.

Для выхаду ў Балтыйскае і Чорнае моры патрэбны неабходныя стасункі з Латвіяй і Украінай. Менавіта праз тэрыторыю гэтых краін можна правесьці Балта-Чарнаморскі нафтавы калектар і пазбавіцца ад манаполіі на нашым энергетычным рынку.

Каб забясьпечыць выхад Беларусі на поўдзень Еўропы, трэба рупіцца пра добрыя стасункі з Чэхіяй, Славакіяй, Аўстрыяй і Балгарыяй. Сярод гэтых краін найбольшую цікавасьць, на мой погляд, уяўляе Славакія, якая мае вельмі падобны да беларускага гістарычны лёс і амаль аднолькавую з намі палітычную ментальнасьць.

ЗША — краіна, ад уплыву якой залежаць пазіцыі шмат якіх дзяржаў у сьвеце. Улічваючы зацікаўленасьць гэтай краіны ў стварэньні нейтральнай і бяз'ядзернай зоны паміж Усходам і Захадам, Беларусь можа разлічваць на добрыя стасункі з гэтай звышдзяржавай і тым самым пашыраць свой уплыў у сьвеце.

Такім чынам, правільная распрацоўка стратэгіі і тактыкі Беларусі ў геапалітычнай сферы міжнароднай дзейнасьці можа прывесьці наш народ да росквіту і эканамічнага дабрабыту.

Я не сумняюся, што ўжо ў пачатку XXI ст. на тэрыторыі Еўропы будуць існаваць тры вялікія эканамічныя ўтварэньні: Заходнееўрапейскі эканамічны саюз, Балтыйска-Чарнаморская эканамічная супольнасьць, што будзе складацца з большасьці краін былога СЭУ, Латвіі, Літвы, Эстоніі, Беларусі і Украіны, і неабсяжны еўрапейскі рынак новай дэмакратычнай Расіі, якая пераадолеўшы «постімперскі сіндром», зойме сваё сапраўднае месца на карце новай Еўропы.

**Алег ТРУСАЎ, старшыня Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, народны дэпутат Беларусі.**

Віктар ЯРАЦ

## КАДЗІЛЬШЧЫКІ

*Літаўраў медзь і гучных слоў кадзілы*
*глушылі плошчаў, вуліц галасы:*
*па сьпісах там калонамі хадзілі*
*пад позіркам усёвідушчых сіл.*
*Калі ж да ручкі «мудра» ўсё дабілі,*
*зноў цягнуць нас у «зону», за слупы,*
*махаюць зноў запыленым кадзілам,*
*зноў абяцаюць зрок вярнуць сьляпым.*
*І са сваёй званьніцы так заўзята,*
*прыдбаўшы, расьцягнуўшы ледзь не ўсё,*
*клянуць з імпэтам нейкіх дэмакратаў,*
*якіх — як на пляшыне валасоў.*
*Зноў дараць масам мудрыя грымасы,*
*да раю зноў паказваюць ключы*
*і шлюць кадзільны дым*
*працоўным класам,*
*за папусаў*
*звыкшы іх лічыць.*

## ЗАЦЯТЫЯ ЗМАГАРЫ

*Апантаныя прагаю велічы*
*і нудой па імперскіх багах,*
*заклікаюць, гісторыю цьвелячы,*
*ачарніць нашай веры сьцяг.*
*Наша слова гатовы арканамі*
*зацягнуць у магільны друз.*
*Раяць стаць зноў бяз роду іванамі:*
*— На хрена нам твоя Белорусь!*
*Сьпіць сумленьне хімічнымі сопкамі.*
*Янычарства квітнее ўраджай.*
*Да спадобы ім бульбачка сопкая*
*і маўклівай цярплівасьці край.*
*— Нам побольше б огурчиков с водочкой,*
*пожирней, понаваристей щей.*
*Ну а мова твоя нам зачем?*
*Разве плавает в ней селедочка?*
*Завіхаюцца — зь лістовачкай,*
*расьпінаюцца — ды з трыбун.*
*Камень цяжкі за пазухай тоячы,*
*пад сябе (маюць вопыт) грабуць.*

## ДЗЕ Ж ГОЛАС ТВОЙ?

*Сумленьне, гонар, спадчына Айчыны —*
*усё ідзе на бартэрны паток,*
*дзе норавы і правілы ваўчыныя:*
*усьмешка там — як фігавы лісток.*
*Шукае зорка ў цемрадзі прасьветлін*
*над сьветам, што ў гандлярскай ваўтузьні,*
*дзе ў думках — СКВ зімой і летам,*
*крыклівыя рэкламныя агні.*
*Музэйны скарб, царкоўныя акрасы*
*(для махляроў — набытак-барышы)*
*плывуць, як стратэгічныя запасы*
*праз рэшата дзіравае мяжы.*
*Да ніткі за кардон усё гатовы*
*загнаць — абы банкнотаў чуўся хруст.*
*Дзе ж голас твой, мой край — абшар зубровы,*
*збалелы мой падранак — Беларусь?*

---

Аляксандр ОЛЭСЬ

* * *

*Лунаць бы плачу, імчаць бы крыку,*
*Сэрцы людзкія на часткі рваць.*
*Усё ўзьвіхрыць бы ў пустэчы дзікай,*
*Пад сьцягам адным усіх зьбіраць.*

*Пазбыцца б мёртвых пяскоў, каменьняў*
*І выйсьці з ночы ў яскравы дзень,*
*Дзе тонуць нівы ў сьвятле праменьняў,*
*Студзіць сьпякоту аблокаў цень.*

*І жыць бы вольна, жыць нам без путаў,*
*З душ нашых сьцерці ганьбы кляймо,*
*Мы ж мусім цярпець боль і пакуты —*
*Раб перад намі цалуе ярмо.*

З украінскай пераклаў
Алесь ТРАЯНОЎСКІ.

# РУХ НЯНАВІСЬЦІ І ХЛУСЬНІ

Народны рух Беларусі — што гэта такое?

Мінула нямала часу, калі ў Беларусі частка «вечна ўчарашніх» адмовіўшыся ад ранейшага найменьня, утварыла чарговае грамадзкапалітычнае аб'яднаньне — «Народное движение Беларуси». Даўняя бальшавіцкая традыцыя пераўтварэньня грамадзкага жыцьця ў барацьбу класаў і ідэалогій, якая ідзе з часоў франтоў грамадзянскай вайны супраць усяго народа, фронту барацьбы за калектывізацыю супраць сялянства, фронту барацьбы з «нацыяналізмам» супраць беларускай — і не толькі — інтэлігенцыі і інш., прыпыніла, як вядома, эканамічнае, сацыяльна-палітычнае і культурнае разьвіцьцё народаў былога СССР на дзесяткі год, але знайшла ўвасабленьне і ў сёньняшняй рэальнасьці рэспублікі. Гаворка ідзе пра ўтварэньне своеасаблівага фронту нянавісьці і хлусьні, найбольш прыдатнага ва ўмовах, калі не існуе больш СССР і КПСС — КПБ, для барацьбы за ўвасабленьне ідэалаў сталінска-брэжнеўскага сацыялізму, аднаўленьне таталітарнага рэжыму і выкрыцьцё іншадумцаў-дэмакратаў.

Чаму фронт нянавісьці? Бо такая прырода «вечна ўчарашніх»: ненавідзець усіх, хто дазваляе сабе думаць і дзейнічаць іначай, чым прыхільнікі «адзіна правільнага вучэньня». Нянавісьць гэта «адрасавана» тым, хто імкнецца да ўсталяваньня новага канстытуцыйнага ладу ў рэспубліцы і пабудовы незалежнай дэмакратычнай беларускай дзяржавы, да эканамічнага разьняволеньня працаўніка і стварэньня ўмоў, каб ён стаў заможным, а таму і вольным, да адраджэньня нацыянальнай культуры і беларускай мовы.

Чаму фронт хлусьні? Бо ня могуць тыя, хто крываві́ў народы і хлусіў дзесяцігодзьдзі, гаварыць праўду. Жыць па праўдзе ўласьціва тым, хто ведае цану людзкасьці і маральнасьці. Хіба не грунтуецца на хлусьні дзейнасьць тых, хто сьцьвярджае, што беларускага народа няма, а ёсьць насельніцтва паўночна-заходняга краю? Хто ня здольны «прачытаць» праўдзівую гісторыю Беларусі, абмяжоўваючыся інтэлектуальным набыткам сталінскага «кароткага курса» або «адкрыцьцямі» ўчарашніх і сёньняшніх аракулаў імперскай расейскай мінуўшчыны? Хто, аднойчы выракшыся свайго народа, называе сябе яго абаронцам? Хто, гаворачы пра сацыяльную абароненасьць працоўных, стварае «ценявую» эканоміку, заснаваную на карупцыі, раскраданьні агульнанароднай маёмасьці і бясьпрыкладным падмане грамадзян Беларусі?

Дык хто ж яны, «айцы» фронту нянавісьці і хлусьні? Былыя наменклатурныя работнікі КПБ і вышэйшага ёю дзяржаўнага апарату, сёньняшнія ўласнікі «грашовых мяшкоў», нажытых з выкарыстаньнем карумпаваных наменклатурных сувязей і сумнiцельных па паходжаньні пачатковых капіталаў. Да іх прымкнулі прыхільнікі зьдзічэлага расейскага шавінізму і гвалтоўнай «панславянізацыі» беларусаў, безумоўна ж, пад сьцягам «старэйшага» брата. Не маглі пакінуць рух без падтрымкі некаторыя ветэраны карных сталінскіх органаў — камерсанты, узброеныя капіталамі былой КПСС — КПБ альбо створанымі шляхам антынароднай наменклатурнай «прыхватызацыі».

Што і казаць, знаёмыя ўсе твары, як і знаёмыя ідэі. Рух нянавісьці і хлусьні добра вядомы грамадзянам Беларусі. Гэта тыя, хто называе сябе абаронцам сацыяльных правоў працоўных, а імкнецца пазбавіць рабочых права на атрыманьне ўласнасьці ў выніку прыватызацыі, сялян — права на зямлю, інтэлігенцыю — права зарабіць на дастойнае чалавека жыцьцё.

Хто, набраўшыся камерцыйнага «сверблу», гандлюе не толькі талентам і працай народа, але нярэдка і радзімай, ствараючы біржы, банкі, выдавецтвы, пасрэдніцка-рабаўніцкія фірмы, якія разбэшчваюць грамадзкую мараль, распаўсюджваючы парнаграфію, кічкультуру, ды пацыху фінансуюць дзейнасьць палітычных структур, вядомых варожым стаўленьнем да дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі.

Хто, выкарыстоўваючы сваё службовае становішча дзяржаўнага чыноўніка, за «ўзнагароды» дазваляе «прыхватызаваць» тое з дзяржаўнай маёмасьці, што патрапляе прагным дзялкам пад спрытныя рукі.

Хто мае на мэце аднавіць дзейнасьць злачыннай КПСС — КПБ і адрадзіць СССР пад абалонкай «новай канфедэрацыі».

Хто, воляю лёсу распараджаючыся большай часткай інфармацыйнай прасторы Беларусі, дзейнасьць якой аплачана з бюджэтных сродкаў, імкнецца ўсяляк выцесьніць з яе словы праўды і дзяржаўную мову. Гэта тыя, для каго размаўляць і пісаць па-беларуску горш, як есьці хрэн без сала. Хто пацыху пераўтварае шэраг установ культуры і некаторыя творчыя саюзы Беларусі ў дамы гандлю і паслуг. Хто слова Божае нясе да людзей на чужой ім мове, выконваючы гэтым палітычны заказ той ці іншай структуры суседніх дзяржаў. Якая вера, калі сьвятар служыць не Богу, а замежным палітыкам?

Гэты пералік можна працягваць. Аднак важней удакладніць: якія сацыяльныя групы насельніцтва Беларусі могуць падпасьці пад уплыў азначанага руху? Гэта значная частка кіруючага складу дзяржаўных прадпрыемстваў і калектыўных гаспадарак: тыя групы рабочых і служачых, якія прывыклі мала працаваць, але атрымоўваюць гарантаваную мінімальна-дастатковую для задавальненьня жыцьцёвых патрэб зарплату; пэўныя колы ветэранаў-пенсіянераў і афіцэраў-адстаўнікоў; невялікая частка сялян, якія магчымасьць напаўпрацы-напаўгультайства ў калгасах-саўгасах задавальняе. Да іх ахвотна далучаюцца, незалежна ад сацыяльнага паходжаньня і палітычных перакананьняў, людзі, якія не могуць прыняць самую ідэю дзяржаўнасьці Беларусі і звыкнуцца з новай сацыяльнай зьявай: нацыянальна-культурным адраджэньнем Бацькаўшчыны.

Адзначаныб рух актыўна дзейнічае над увасабленьнем сваіх ідэй, спадзеючыся, што настане час для захопу ўлады і аднаўленьня антыдэмакратычнага рэжыму ў рэспубліцы. Пажадаем яму няўдачы, як і ў жніўні 1991 года альбо ў кастрычніку 1993-га.

Разам з тым, як да магчымага варыянту барацьбы за ўладу, фронт нянавісьці і хлусьні рыхтуецца і да будучых выбараў ў Саветы народных дэпутатаў, спадзеючыся на набыты за дзесяцігодзьдзі багаты вопыт сацыяльнай дэмагогіі, на грашовыя мяшкі схаваных партыйных фінансавых сродкаў, укладзеных да пары да часу ў камерцыйныя структуры, а таксама на падтрымку наменклатуры ў цяперашніх структурах улады.

Рэальна процістаяць фронту аб'яднанай рэакцыі можа згуртаваньне дэмакратычных палітычных партый і рухаў. Палітычнай асновай для такога аб'яднаньня павінна быць праграма ўмацаваньня дэмакратычнай незалежнай беларускай дзяржавы, разьвіцьця шматукладнай эканомікі на грунце суіснаваньня розных формаў уласнасьці, шырокага забесьпячэньня асабовых і сацыяльных правоў чалавека. Гэтыя ідэі цяпер блізкія да ўвасабленьня, пацьверджаньнем таму служыць дзейнасьць шэрагу апазіцыйных партый і рухаў Беларусі. Больш за ўсё фронт нянавісьці і хлусьні баіцца праўды і салідарнасьці людзей, якім дарагія ідэалы свабоды, народаўладзьдзя, эканамічнага і нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня Бацькаўшчыны, бо з увасабленьнем гэтых ідэалаў гэты фронт немінуча адыдзе ў бясслаўнае забыцьцё. І гэты час недалёка.

*Палітычна-грамадзкая газэта «Менская грамада»*
**Заснавальнікі:** Асацыяцыя беларускіх выданьняў ТБМ імя Фр.Скарыны, Віталь Скалабан, Алесь Траяноўскі, Яўген Цумараў і Уладзімір Ягаўдзік.
**Галоўны рэдактар Алесь ТРАЯНОЎСКІ.**

*Аўтары допісаў адказваюць за дакладнасьць фактаў, цытат, лічбаў, дат, асабістых імёнаў, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, якая паведамляецца імі. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пункту гледжаньня аўтара. Дасланыя матэрыялы не рэцэнзуюцца й не высылаюцца назад аўтарам.*

**Адрас рэдакцыі і выдаўца: 220005, г.Менск, вул.Румянцава, 13.**
**Тэл. і факс 33-13-52.**
Кампутарная вёрстка — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Наклад 8 тыс. паасобнікаў.
Друкарня «Перамога», г.Маладзечна.
Падпісана да друку 13 .VII.1994 г.
Заказ N655

● N 1 ● Ліпень, 1994 г.

МЕНСКАЯ ГРАМАДА

# ТРАСЦЯНЕЦ

ДАДАТАК - БЮЛЕТЭНЬ ГІСТОРЫКА - МЕМАРЫЯЛЬНАГА ФОНДУ « ТРАСЦЯНЕЦ »

## ПАСТАНОВА ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Аб увекавечанні памяці ахвяр лагера смерці «Трасцянец» (1942 — 1944 гады)

З мэтай увекавечання памяці ахвяр вайны і фашысцкага генацыду і ў сувязі з пяцідзесятай гадавінай вызвалення Беларусі і перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Рэкамендаваць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняць да 1 ліпеня 1994 года рашэнні, неабходныя для стварэння на тэрыторыі былога лагера смерці «Трасцянец» Мемарыяльнай гісторыка-ахоўнай зоны з музеем, комплексам помнікаў гісторыі, полем памяці ахвяр вайны і генацыду.

2. Даручыць Міністэрству замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрству унутраных спраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрству культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Камітэту дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнаму архіву Рэспублікі Беларусь, Акадэміі навук Беларусі скардынаваць сваю дзейнасць па выяўленні ў архівах Беларусі і на аснове міждзяржаўнага супрацоўніцтва ў архіўных фондах замежных дзяржаў матэрыялаў і дакументаў, звязаных з існаваннем у 1942 —1944 гадах лагера смерці «Трасцянец», а таксама па іх вывучэнні, папулярызацыі, выпуску адпаведнай друкаванай і кінавідэапрадукцыі, стварэнні філіяла музея Вялікай Айчыннай вайны і ўдзенні іншай асветніцкай дзейнасці сярод грамадзян.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**М.ГРЫБ**
**18 мая 1994 г.**




Боль і смутак — "Трасцянец"

## ГАЛГОФА СОЦЕНЬ ТЫСЯЧ ЛЮДЗЕЙ

У ПЕРЫЯД нямецка-фашысцкай акупацыі Беларусі ў Мінску і яго ваколіцах быў створаны і дзейнічаў найбуйнейшы ў Еўропе д'ябальскі механізм фізічнага знішчэння і маральнага падаўлення людзей. У мінскім гета, турме па вул.Валадарскага, турме СД па вул.Астроўскага, лагерах па вуліцах Даўмана, Шырокай, у пас.Draзды, Шталагу ("Лясным лагеры") каля в.Масюкоўшчына, у месцах масавых смяротных пакаранняў ва Уручча, Навінках, на Кальварыі, каля в.Глінішча, ва урочышчах Благаўшчына і Шашкаўка і ў лагеры смерці каля в.Малы Трасцянец знішчаны паводле планаў ліквідацыі «расава непаўнавартаснага насельніцтва» многія сотні тысяч людзей.

Толькі самы вялікі па абшарах былога СССР і трэці ў Еўропе па колькасці ахвяр фашысцкі лагер смерці «Трасцянец» стаў месцам зняволення і гібелі па розных звестках ад 206 да 546 тысяч людзей (апошнія дадзеныя Надзвычайнай камісіі, якая працавала ў 1944 — 1946 гг.), ваеннапалонных, падпольшчыкаў, заложнікаў і іншых мірных грамадзян не толькі Беларусі, але і многіх краін Еўропы.

Захады па ўвекавечанні памяці ахвяр «Трасцянца», якія прымаліся ў пасляваенны перыяд, не могуць задаволіць грамадскасць. З аднаго боку, мемарыял з Вечным агнём на 9-м км Магілёўскай шашы ўзведзены за межамі былога лагера смерці і месцаў пахавання яго ахвяр. З другога боку, частка тэрыторыі лагера і магілы дзесяткаў тысяч людзей не ўключаны ў склад зоны аховы помніка гісторыі. На гэтых месцах па-варварску вядзецца гаспадарчая дзейнасць, знішчаюцца магілы, зялёныя насаджэнні і г.д.

(Заканчэнне на наступнай стар.)

## РАДА ГІСТОРЫКА-МЕМАРЫЯЛЬНАГА ФОНДУ «ТРАСЦЯНЕЦ»

*4 лістапада 1993 г. у Менску адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Гісторыка-мемарыяльнага фонду «Трасцянец». На канферэнцыі былі абраны рада фонду і яе старшыня. У склад рады ўвайшлі:*

БАРАНОЎСКІ Я.І. — генеральны дырэктар Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь;

ВАНЬКЕВІЧ А.Г. — вучоны сакратар Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны;

ГУРЫНОВІЧ А.В. — намеснік старшыні Мінскага гарадскога Савета;

ГЕРАШЧАНКА Ю.Д. — дырэктар СШ N 210 г.Мінска;

ДЗМІТРЫЕНКА А.І. — старшыня Свабоднага прафсаюза МАЗа;

ДРАНІЦКІ У.І. — народны дэпутат Мінскага гарадскога Савета;

ЕМЯЛЬЯНАЎ М.В. — навуковы кіраўнік праекта зон аховы помніка гісторыі — лагера смерці «Трасцянец»;

КНАЦЬКО Г.Д. — навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва Беларусі;

КУРСКІ М.І. — інструктар аддзела культуры Мінскага райвыканкама;

КОЛАС У.Г. — дырэктар Беларускага грамадскага культурна-асветніцкага цэнтра;

ЛАВІЦКІ М.Е. — нам. старшыні прафкама МАЗа;

ЛЕВІН Л.М. — архітэктар, Лаўрэат Ленінскай прэміі, прэзідэнт Саюза яўрэйскіх арганізацый Беларусі;

ЛІТВІН А.М. — загадчык аддзела ваеннай гісторыі Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі;

МІКУЛЬЧЫК Я.В. — намеснік старшыні Упраўлення Савета Міністраў Беларусі па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў;

ПАЛЯКОВА Т.Б. — журналіст, супрацоўнік выканкама БСДГ;

СОКАЛ С.Ф. — доктар юрыдычных навук;

СКАЛАБАН В.У. — загадчык рэдакцыі гісторыі Беларускай Энцыклапедыі;

СТАНКЕВІЧ А.В. — сябра рады Беларускага згуртавання вайскоўцаў;

ТРАЯНОЎСКІ А.П. — журналіст;

ЦІТКОЎ В.А. — народны дэпутат Мінгарсавета, супрацоўнік Заводскага райвыканкама;

ЦУМАРАЎ Я.А. — народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

ЧАРНАГЛАЗАВА Р.А. — навуковы супрацоўнік музея Вялікай Айчыннай вайны;

ЧАРНУШЭВІЧ Ф.С. — старшыня Мінскага раённага Савета;

ХАМЯНОК У.Д. — народны дэпутат Мінскага гарадскога Савета;

ШАМАДЗІ В.Э. — генерал-маёр, старшыня камісіі па ўвекавечанні памяці загінуўшых у гады Вялікай Айчыннай вайны пры саюзе ветэранскіх арганізацый Беларусі.

* * *

Старшынёй Рады Гісторыка-мемарыяльнага фонду «Трасцянец» быў абраны народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Яўген ЦУМАРАЎ.

# ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗЯН, ВЯРХОЎНАГА САВЕТА, УРАДА, ГРАМАДСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ БЕЛАРУСІ

У бягучым стагоддзі Беларусь перажыла часы адраджэння, дзяржаўнага, нацыянальна-культурнага, дэмакратычнага, і часы трагедыі, якая прывяла Бацькаўшчыну да мяжы разбурэння, мяжы нацыянальнай катастрофы. Адным з самых драматычных перыядаў жыцця краіны стаў перыяд Другой сусветнай вайны і час, які непасрэдна папярэднічаў і ішоў за ёю: у 1930 — 1939 гг. і ў пасляваенны перыяд, калі краіна ўслед за рэпрэсіямі і фашысцкай акупацыяй, за Курапатамі і Трасцянцом перажыла заняпад нацыянальнай мовы і культуры і аказалася на мяжы разбурэння грамадзянскай супольнасці Беларусі.

У 1941 — 1944 гг. у Мінску і яго ваколіцах быў створаны і дзейнічаў буйнейшы ў свеце д'ябальскі механізм фізічнага знішчэння і маральнага падаўлення людзей. У турме па вул.Валадарскага, турме СД па вул.Астроўскага, Мінскім гета, лагерах па вул.Даўмана, Шырокай, у пасёлках Дразды, Масюкоўшчына, у месцах масавых смяротных пакаранняў ва Уруччы, Навінках, на Кальварыі, каля в.Глінішча, ва ўрочышчах Благаўшчына і Шашкаўка і ў лагеры смерці каля вёскі Малы Трасцянец знішчаны многія сотні тысяч грамадзян Беларусі, былога СССР, а таксама шэрагу краін Еўропы. Аднак, на жаль, многія старонкі гісторыі да гэтага часу не высветлены.

Менш за ўсё вядома пра існаванне і дзейнасць у 1942—1944 гг. лагера смерці «Трасцянец», у якім загінула, па розных звестках, ад 206 да 546 тысяч людзей. У ваколіцах вёскі Малы Трасцянец, ва ўрочышчах паабапал Магілёўскай шашы, дзе да самага апошняга часу размяшчаўся палігон, стрэлы грымелі па начах пачынаючы з пачатку 30-х гадоў. Толькі ва ўрочышчы Благаўшчына, побач з якім знаходзіцца гарадская звалка пасляваенных гадоў, пахаваны ў 34 ірвах каля 150 тысяч ахвяр вайны. Тут няма каля дарогі спецыяльнага ўказальніка, няма і мемарыяльнага знака.

Па невядомых прычынах звесткі пра дзейнасць буйнейшага ў свеце лагера смерці «Трасцянец» не трапілі на стол міжнародных следчых арганізацый, якія рыхтавалі Нюрнбергскі працэс, на якім быў асуджаны фашызм. Больш таго, да гэтага часу не выпушчана ў свет ніводнай кнігі, не знята ніводнага фільма, не абвешчана пра стварэнне Нацыянальнай гісторыка-ахоўнай зоны на тэрыторыі былога лагера смерці. Няма і Кнігі памяці ахвяр вайны, ахвяр лагера смерці. Дакументы і матэрыялы, якія маглі б прыадкрыць таямніцу лагера смерці, не вывучаны і раскіданы па сховішчах і зборах многіх краін Еўропы.

У гэтых абставінах па ініцыятыве грамадскасці, пры ўдзеле гісторыкаў, юрыстаў, прадстаўнікоў органаў дзяржаўнай улады і кіравання, ветэранаў вайны, прадстаўнікоў многіх зацікаўленых арганізацый і ўстаноў у Мінску створаны гісторыка-мемарыяльны фонд «Трасцянец». Фонд пачаў дзейнічаць напярэдадні 50-годдзя вызвалення краіны і перамогі ў другой сусветнай вайне і будзе ўдзячны грамадзянам, службовым асобам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый за дапамогу па зборы матэрыялаў і дакументаў, звязаных са смерцяноснай дзейнасцю лагера смерці «Трасцянец», і за іншыя факты садзейнічання яго працы па выпуску ў свет друкаваных матэрыялаў, кіна— і фотадакументаў, па арганізацыі і вядзенні асветніцкай работы сярод насельніцтва Беларусі. Фонд звяртаецца да грамадзян, якія сталі ахвярамі вайны і таталітарызму, іх родзічаў, блізкіх, сведкаў азначаных вышэй падзей з прапановай прадаставіць у яго распараджэнне дакументы, успаміны і матэрыялы адпаведнага характару.

Ва ўмовах, калі краіна аказалася ў стане абвальнага палітычнага і сацыяльна-эканамічнага крызісу, калі ў грамадстве паўстае пагроза новага вітка насілля і вяртання таталітарызму, гісторыка-мемарыяльны фонд «Трасцянец» звяртаецца да грамадзян, Вярхоўнага Савета і ўрада, іншых грамадскіх арганізацый Беларусі падтрымаць ініцыятыву аб абвяшчэнні 1994 года годам памяці ахвяр вайны і генацыду, ачышчэння ад таталітарызму, насілля і жорсткасці, годам грамадзянскага прымірэння і згоды ў краіне дзеля будучыні Бацькаўшчыны, станаўлення дэмакратычнай, незалежнай, нейтральнай і бяз'ядзернай дзяржавы як гаранта выжывання народа, развіцця грамадства і росквіту асобы.

*Яўген ЦУМАРАЎ, народны дэпутат Беларусі, старшыня гісторыка-мемарыяльнага фонду «Трасцянец».*

*Мікалай ЕМЯЛЬЯНАЎ, навуковы кіраўнік праекта зон аховы помніка гісторыі рэспубліканскага значэння былога лагера смерці «Трасцянец», сябра фонду.*

*Лявон ДЗЕЙКА, народны дэпутат Беларусі, сябра фонду.*

*Сяргей ЛЕЎШУНОЎ, кандыдат юрыдычных навук, сябра фонду.*

*Раіса ЧАРНАГЛАЗАВА, загадчык партызанскага сектара Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, сябра фонду.*

*Віталь СКАЛАБАН, гісторык, сябра фонду.*

*С.У.ВЕЧАР, галоўны спецыяліст упраўлення культуры Мінаблвыканкама, сябра фонду.*

*Анатоль ГУРЫНОВІЧ, намеснік старшыні Мінгарсавета, сябра фонду.*

*Яўген НОВІКАЎ, народны дэпутат Беларусі.*

*Віктар АЛАМПІЕЎ, народны дэпутат Беларусі.*

*Ала ВАНЬКЕВІЧ, вучоны сакратар Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, намеснік старшыні фонду.*

*Уладзімір КОЛАС, кінарэжысёр, дырэктар БГКАЦ, сябра фонду.*

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ, загадчык аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН Беларусі, сябра фонду.*

*Алег ТРУСАЎ, народны дэпутат Беларусі, старшыня БСДГ.*

*Алесь ЧАРНЯЎЧЫК, выкладчык, сябра фонду.*

*Тамара ФАМЕНКА, навуковы супрацоўнік РЦЭВД, сябра фонду.*

*Анатоль СІДАРЭВІЧ, гісторык, публіцыст.*

*Таццяна ПАЛЯКОВА, кіраўнік прэс-цэнтра БСДГ, сябра фонду.*

*Мікола КІЙКА, эканаміст, сябра фонду.*

*Міхаіл ЖУКОЎСКІ, народны дэпутат Беларусі, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па справах ветэранаў і інвалідаў.*

*Мікалай ЖУРАЎЛЁЎ, народны дэпутат Беларусі, намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па справах ветэранаў і інвалідаў.*

*Аляксандр Аляксандравіч БАГДАНОВІЧ-САПЕГА, вялікі князь Таварыства «Вялікае княства Беларускае, Літоўскае, Смаленскае, Валынскае і Кіеўскае».*

*Мікола СТАТКЕВІЧ, старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў.*

# АБАРАНІЦЬ ПОМНІК ЗМАГАННЯ І ПАКУТ

Паводле афіцыйных звестак за час з 1941 па 1944 год ва ўрочышчы Благаўшчына, якое знаходзіцца за 14 кіламетраў на ўсход ад Мінска па Магілёўскай шашы, нямецка-фашысцкія акупанты знішчылі каля 150 тысяч чалавек.

У Благаўшчыну траплялі, акрамя ваеннапалонных, партызаны, падпольшчыкі і проста грамадзяне з турмаў і лагераў розных рэгіёнаў акупаванай тэрыторыі СССР, а таксама ўдзельнікі руху Супраціўлення і яўрэйскае насельніцтва краін Заходняй і Усходняй Еўропы. Частка людзей гінула ў страшэнных пакутах у «душагубках», якімі іх везлі з лагераў і турмаў Мінска і чыгуначнай станцыі непасрэдна ва ўрочышча.

Загуба адбывалася амаль штодня.

Увосень 1943 года, калі акупанты зразумелі, што агульны ход ваенных дзеянняў змяняецца не на іх карысць, загуба з Благаўшчыны была перанесена ў спецыяльна збудаваны крэматорый у Шашкоўцы — на поўдзень ад лагера «Малы Трасцянец» (насупраць месцазнаходжання колішняга крэматорыя нядаўна збудаваны смеццеперапрацоўчы завод). У Благаўшчыне былі зроблены захады па ліквідацыі слядоў злачынстваў. З Нямеччыны быў прывезены спецыяльны экскаватар з каўшом-віламі. Гэтымі віламі выцягваліся з зямлі трупы замардаваных, якія затым спальваліся. Пасля двух месяцаў работ попел і косці спаленых фашысцкія каты скідалі ў равы, маскіравалі дзёрнам і сухім галлём.

У ліпені 1944 года, адразу пасля вызвалення Мінска ў Трасцянцы працавала Надзвычайная камісія па даследаванні злачынстваў нямецка-фашысцкіх акупантаў. У актах і пратаколах камісіі адзначаюцца разнастайныя лічбы ахвяр, у прыватнасці, 546 тысяч чалавек.

Нямецкіх дакументаў па «Трасцянцу» і Благаўшчыне дасюль не знойдзена. Вызначыць колькасць ахвяр па аб'ёму попелу таксама вельмі складана (паводле пратаколаў ва ўрочышчы Благаўшчына былі адшуканы 34 равы даўжынёй да 60 метраў). Але і па афіцыйных звестках — 150 тысяч чалавек, і звыш 206 тысяч у самым «Трасцянцы» — лагер смерці пад Мінскам па колькасці ахвяр стаў найбуйнейшым у акупаванай частцы СССР.

Апошнім часам Трасцянец і Благаўшчыну рэгулярна наведваюць турыстычныя групы з Нямеччыны.

У адпаведнасці з артыкулам 29 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гістарычнай спадчыны» кожны помнік гісторыі павінен быць абаронены сістэмай зон аховы ад знішчэння, якія рэгламентуюць выкарыстанне помніка і ягонага наваколля.

Сёння ўрочышча Благаўшчына не абаронена сістэмай зон аховы. Непасрэдна ва ўрочышчы месціцца гарадскі сметнік, праектуецца стварэнне тут транспартнай развязкі, збудаваны смеццеперапрацоўчы завод. Для захавання і наступнай мемарыялізацыі гэтага месца патрэбна неадкладная распрацоўка праекта зоны аховы.

**М.ЕМЯЛЬЯНАЎ, навуковы кіраўнік праекта зон аховы помніка гісторыі Вялікай Айчыннай вайны — лагера смерці «Малы Трасцянец»**

# ГАЛГОФА СОЦЕНЬ ТЫСЯЧ ЛЮДЗЕЙ

(Пачатак на папярэдняй стар.)

Так, урочышча Благаўшчына, месца пахаванняў звыш 150 тысяч чалавек, не ўваходзіць у зону аховы «Трасцянца». Іншыя аб'екты на тэрыторыі зоны аховы, зацверджанай Мінгарвыканкамам, працягваюць знішчацца (тапалёвая «алея смерці», рэшткі пабудоў лагера, чыгуначны пункт высадкі вязняў, якія зганяліся з многіх краін Еўропы). На тэрыторыі былога лагера вядзецца будаўніцтва, пракладваюцца трубаправоды, аўтамагістраль, а ў апошнія гады выдзяляюцца грамадзянам участкі для агародніцтва (без права будаўніцтва).

Невялікі аб'ект з плячам зямлі 8x18 м на месцы крэматорыя ў Шашкаўцы, дзе былі спалены дзесяткі тысяч людзей, акружаны недагледжанай пусткай і, мякка кажучы, не адпавядае глыбіні народнай трагедыі, якая тут адбылася.

У краіне не вядзецца работа па стварэнні музея (філіяла музея Вялікай Айчыннай вайны) у «Трасцянцы», не выдаецца літаратура, не вывучаюцца дакументы і матэрыялы адпаведнага зместу, не падлічана нават колькасць ахвяр лагера смерці (ад 206 да 546 тысяч), няма кіна-відэатвораў і інш.

Непасрэдна ў лагеры «Трасцянец», у Благаўшчыне нацысты знішчылі многія тысячы грамадзян шэрагу краін Еўропы. Іх родныя і блізкія ўсё часцей наведваюць гэтыя мясціны і, відавочна, пакідаюць Беларусь не з лепшымі пачуццямі. У шэрагу краін (Германіі, Ізраілі) пачаўся збор сродкаў на ўзвядзенне помніка ва ўрочышчы Благаўшчына. Аднак трэба памятаць, што большасць ахвяр «Трасцянца» — гэта нашы суайчыннікі, і маральны абавязак перад дзяржавай застаецца.

Гісторыка-мемарыяльны фонд «Трасцянец» заснаваны ў лістападзе 1993 года, аргкамітэт пачаў дзейнічаць з 1992 года — і з гэтага часу яго дзейнасць атрымала шырокі розгалас у грамадстве. Грамадская думка прыходзіць да ўсведамлення таго, што Трасцянец — гэты помнік нацыянальнай і агульначалавечай трагедыі — будзе неўзабаве належным чынам ушанаваны і набудзе шырокую вядомасць, як і Курапаты, Хатынь, Асвенцім, Майданэк... У Трасцянцы, трэцім па маштабах знішчэння людзей фашысцкім лагеры смерці ў свеце, загінулі не толькі нашы суайчыннікі, але і дзесяткі тысяч грамадзян шэрагу краін Еўропы, у тым ліку і ахвяры генацыду супраць яўрэйскага народа. Таму фонд «Трасцянец» атрымлівае належную падтрымку грамадскасці замежных краін: Германіі, Ізраіля і інш.

Па ініцыятыве і з удзелам фонду «Трасцянец» была распрацавана і прынята Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб увекавечанні памяці ахвяр лагера смерці "Трасцянец" (1942-1944 гг.)". Аднак сяброў фонду «Трасцянец» чакае наперадзе нямала грамадскай самаахвярнай працы. У сціслы час неабходна выпусціць у свет кнігу-альбом матэрыялаў і дакументаў, дакументальныя фільмы аб Трасцянцы, заснаваць музей, даследаваць архівы шэрагу краін, адшукаць сведкаў падзей... Рада гісторыка-мемарыяльнага фонду «Трасцянец» паведамляе грамадзянам, якія выказваюць гатоўнасць унесці пасільны ўклад у высакародную справу ўшанавання памяці ахвяр вайны і генацыду, адрас і тэлефоны арганізацыі: 220016 Менск, вул. К.Маркса, д.38 (ліставанне на імя старшыні фонду «Трасцянец»). Тэлефоны 29-34-00 (Яўген Цумараў) альбо 27-56-65 (Ала Ванькевіч).

Калектыўным сябрам Гісторыка-мемарыяльнага фонду «Трасцянец» з'яўляецца Менская гарадская філія Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Рада Фонду запрашае арганізацыі, установы, прадпрыемствы, а таксама іншыя юрыдычныя асобы краіны прымаць яго калектыўнае сяброўства.

Гісторыя «Трасцянца» не павінна застацца «белай плямай» у гісторыі краіны, і менавіта цяпер, у гадавіну 50-годдзя вызвалення Беларусі і Перамогі ў вайне складаюцца ўмовы, каб з годнасцю, па-дзяржаўнаму вырашыць праблемы, пра якія вялася гаворка вышэй.

**Я.ЦУМАРАЎ, старшыня Гісторыка-мемарыяльнага фонду «Трасцянец», народны дэпутат Беларусі**



На адвароце гэтага здымка надпіс, зроблены яго аўтарам: "Спалены хлеў з л[юдзьмі] немцамі с.Трасцянец 12 км. ад Мінска. На права касцёр-шта[бель] бярвенняў, абгарэлыя [...] з людзьмі (не цалкам згарэлыя).

Зняў 15.VII=44 С.Палянцаў (гэтае месца ўспрымаецца як філіял лагера смерці, у гэтым раёне сістэматычна праводзілі немцы знішчэнне людзей)".

Здымак са збораў Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Публікуецца ўпершыню.

Усе астатнія здымкі, публікуемыя ў гэтым нумары, зроблены ў 1944 г. у Трасцянцы членамі Мінскай абласной камісіі садзейнічання ў працы Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі па расследаванні і выяўленні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Арыгіналы захоўваюцца ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

# УВЕКАВЕЧЫЦЬ ПАМЯЦЬ АХВЯР

Гісторыка-мемарыяльны фонд «Трасцянец» быў утвораны ў лістападзе мінулага года. Мэта фонду — аб'яднаць намаганні ўсіх, хто не абыякавы да гістарычнай і культурнай памяці народа, хто клапоціцца аб увекавечанні памяці ахвяр фашысцкага генацыду на зямлі Беларусі.

За адносна невялікі час заледзянелая справа зварухнулася. Фонд прапанаваў увекавечыць месца масавага знішчэння гітлераўцамі грамадзян ва ўрочышчы Благаўшчына, што побач з Трасцянцом, пачаць пошукі дакументаў і сведак трагедыі; устанавіць імёны ахвяр для «Кнігі памяці»; падрыхтаваць і выдаць кніжкі аб гісторыі Трасцянецкага лагера смерці — буйнейшага не толькі ў нашай рэспубліцы, але і на ўсёй акупаванай гітлераўцамі тэрыторыі былога СССР.

На гэтыя прапановы станоўча адгукнуліся Вярхоўны Савет і Савет Міністраў РБ, міністэрствы культуры і друку, замежных спраў, АН РБ, Мінгарвыканкам і інш. Праявілі зацікаўленасць пасольствы Германіі і Ізраіля. Гарадская арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады стала калектыўным членам фонду. Супрацоўнікі Інстытута гісторыі АН РБ, Нацыянальнага архіва РБ і Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны пачалі пошук і падрыхтоўку матэрыялаў для зборніка дакументаў і ўспамінаў аб Трасцянцы.

Спецыяльная камісія ў студзені гэтага года выязджала на месцы масавага знішчэння грамадзян на тэрыторыі Мінска і яго ваколіц, у тым ліку ў Благаўшчыну, каб вызначыць месцы ўстаноўкі мемарыяльных знакаў да 50-годдзя вызвалення Беларусі.

Пасля публікацыі звароту гісторыка-мемарыяльнага фонду «Трасцянец» далі аб сабе знаць некаторыя сведкі трасцянецкай трагедыі. Адзін з іх — Мурашка Алег Аляксандравіч. Будучы невялікім хлапчуком, пагнаў пасвіць кароў у Благаўшчыну і на свае вочы бачыў вялізныя ямы з незасыпанымі трупамі. Жудаснае відовішча назаўсёды захавалася ў памяці.

... Крыху больш за 20 гадоў пражыла Вольга Крук з вёскі Лешніца Рудзенскага раёна. Перад самым прыходам Чырвонай Арміі яна пайшла ў Мінск на базар прыдбаць мыла. Трапіла ў аблаву і была спалена ў Трасцянцы. Калі маці Вольгі Праскоўя Данілаўна даведалася аб страшнай смерці дачкі, пабегла ў Трасцянец, лямантавала каля пуні з недагарэлымі яшчэ людзьмі, узяла адтуль жменьку чалавечага попелу і локан валасоў, як ёй здавалася, менавіта яе Волечкі, схавала ў хусцінку і не развітвалася з ёю да самай смерці. Толькі цяпер больш-менш падрабязна мы даведаліся аб трагедыі гэтых чалавечых лёсаў ад дырэктара музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Г.І.Баркуна. Вольга Крук — яго родная цётка.

Трэба аддаць належнае народнаму дэпутату Вярхоўнага Савета РБ, сакратару Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Яўгену Цумараву — аўтару ідэі стварэння гісторыка-мемарыяльнага фонду «Трасцянец». Яго намаганнямі была падрыхтавана грамадская думка, створаны актыў, распрацаваны статут фонду. На ўстаноўчай канферэнцыі Я.Цумарава аднагалосна выбралі яго старшынёй. Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны яшчэ ў 1944 г. паклаў першыя камяні ў падмурак памяці аб ахвярах Трасцянца: сабраў, захаваў і на працягу дзесяцігоддзяў экспанаваў рэчавыя і дакументальныя матэрыялы аб Трасцянецкім лагеры смерці; вёў асветніцкую работу; адшукаў і запрасіў сабрацца разам выжыўшых вязняў лагера і жыхароў вёсак Вялікі і Малы Трасцянец і застэнаграфаваў іх аповяды... Збор матэрыялаў працягваецца і зараз. Супрацоўніца музея Ірына Лятко нядаўна атрымала ад жыхара г.Гановера Вальтэра Фрыца фотаздымак групы СС «Арльт». Здымак гэты, нягледзячы на дрэнную якасць, анатаваць не трэба: зроблены ў 1941 г., на пачатку вайны, ён гаворыць сам за сябе. Нездарма ж гэты фотадакумент фігураваў у 1962 — 1963 гг. на працэсе ў заходнегерманскім горадзе Кобленцы па справе былых супрацоўнікаў паліцыі бяспекі і СД, якія ўчынілі цяжкія злачынствы на тэрыторыі Беларусі. Па матэрыялах працэсу было ўстаноўлена, што менавіта група «Арльт» прымала ўдзел у знішчэнні людзей у Благаўшчыне.

Будзем спадзявацца, што з дапамогай грамадскасці фонду ўдасца сабраць невядомыя пакуль матэрыялы, прадрыхтаваць і выдаць адпаведную літаратуру, дабіцца прывядзення ў належны стан тэрыторыі былога лагера смерці Малы Трасцянец і месцаў знішчэння людзей ва ўрочышчых Благаўшчына і Шашкаўка, а таксама мемарыялізацыі ўсяго помніка.

І, вядома, назаўсёды адбіць ахвоту ў абыякавых і некампетэнтных дзеячаў гарадскога і раённага маштабаў весці гаспадарчую і будаўнічую дзейнасць на запаветнай тэрыторыі Трасцянца —Шашкаўкі — Благаўшчыны. Паміж жыццём і смерцю, тым больш гвалтоўнай, існуе пэўная мяжа памяці і павагі, таптаць якую — вялікі грэх не толькі перад адышоўшымі ў нябыт, але і перад нашчадкамі.

**Ала ВАНЬКЕВІЧ,**
**вучоны сакратар Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, намеснік старшыні гісторыка-мемарыяльнага фонду «Трасцянец»**

**"Белыя" старонкі гісторыі**

# УСПОМНІМ ПРА ТРАСЦЯНЕЦ!

— гэта заклік да грамадзян Беларусі, актывістаў міжнародных гісторыка-мемарыяльных арганізацый, прыхільнікаў дзеючых у іншых краінах грамадскіх рухаў па ўвекавечанні памяці аб ахвярах войнаў і генацыду.

У перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі ў Мінску і яго ваколіцах быў створаны і дзейнічаў буйнейшы ў Еўропе д'ябальскі механізм фізічнага знішчэння і маральнага падаўлення людзей. У мінскім гета, турме па вул.Валадарскага, турме СД па вул.Астроўскага, лагерах па вуліцах Даўмана, Шырокай, у пас.Дразды, Шталагу ("Лясным лагеры") каля в.Масюкоўшчына, у месцах масавых смяротных пакаранняў ва Уруччы, Навінках, на Кальварыі, каля в.Глінішча, ва ўрочышчах Благаўшчына і Шашкаўка і ў лагеры смерці каля в.Малы Трасцянец знішчаны паводле планаў ліквідацыі «расава непаўнацэннага насельніцтва» многія сотні тысяч грамадзян не толькі былога СССР, нашы суайчыннікі, але і людзі з многіх краін Еўропы.

Словы Гітлера: «Мы абавязаны знішчаць насельніцтва — гэта ўваходзіць у нашу місію...» — былі пакладзены ў аснову стратэгічнай «дактрыны» фашызму ў адносінах да народаў Беларусі. Са стварэннем самага вялікага на абшарах былога СССР і трэцяга па памерах у Еўропе лагера смерці «Трасцянец» «дарогу смерці» па тапалёвай алеі ад 9-га км шашы Мінск-Магілёў да месцаў зняволення і масавых пакаранняў смерцю прайшлі, па адных звестках, 206500 чалавек, а па дадзеных Надзвычайнай камісіі, створанай пасля вызвалення Мінска ў 1944 годзе, — звыш 546 тысяч ахвяр. Гэта ваеннапалонныя і мінскія падпольшчыкі, партызаны Беларусі і мірныя грамадзяне з розных куткоў рэспублікі, вязні амаль стотысячнага мінскага гета і многія тысячы людзей з Францыі, Аўстрыі, Германіі, Польшчы, Чэхіі, Славакіі і іншых краін Еўропы.

На жаль, застаюцца невядомымі не толькі імёны і прыналежнасць да грамадзянства шматлікіх ахвяр лагера смерці «Трасцянец», але і не высветлена нават, колькі іх было. Няма і неабходных дзеля справядлівага маральнага суда звестак пра катаў і забойцаў, якія чынілі зладзействы ў час існавання лагера смерці. Грамадзяне Беларусі і многіх краін свету чакаюць звестак пра тое, дзе і калі прынялі пакутлівую смерць іх блізкія і родныя.

Шмат якія таямніцы лагера смерці «Трасцянец» захоўваюць у сабе архівы Беларусі, краін былога СССР, а таксама заходнееўрапейскіх дзяржаў. Дзейнасць лагера смерці — «белая» старонка гісторыі Другой сусветнай вайны, якую трэба запоўніць словамі ісціны, і гэта будзе часткай сплачанага намі доўгу перад ахвярамі генацыду і войнаў напярэдадні 50-годдзя перамогі над фашызмам.

Бяспамяцтва і няведанне прыводзіць да таго, што на тэрыторыі былога лагера смерці, якая ўключае больш як 200 гектараў зямлі, працягвае пашырацца гаспадарчая дзейнасць, ідзе будаўніцтва, месцы пахаванняў тысяч людзей выкарыстоўваюцца пад пасевы. На 11-м кіламетры Магілёўскай шашы побач з урочышчам Благаўшчына, дзе закатавана і пахавана ў 34 равах звыш 150 тысяч вязняў лагера смерці «Трасцянец», знаходзіцца закрытая ў мінулым годзе гарадская звалка смецця. Гэта адбываецца на нашых вачах, бо распрацаваны ў пачатку 1992 г. праект стварэння гісторыка-мемарыяльнай ахоўнай зоны на месцы былога лагера смерці, нягледзячы на патрабаванні грамадскасці, застаецца на паперы.

У гэтых умовах паўстае задача сумеснымі намаганнямі зацікаўленых службовых асоб органаў дзяржаўнай улады і кіравання, прадстаўнікоў гісторыка-мемарыяльных і іншых грамадскіх арганізацый, якія клапоцяцца пра тое, каб увекавечыць памяць аб ахвярах войнаў і генацыду, а таксама шырокай грамадскасці Беларусі пры ўдзеле ставячых такія ж мэты міжнародных і замежных арганізацый і адпаведных дзяржаўных структур стварыць грамадскі гісторыка-мемарыяльны фонд «Лагер смерці Трасцянец» (варыянт: «Трасцянец»). У агульных рысах статутныя задачы і мэты дзейнасці азначанага фонду могуць быць наступныя:

— мэтанакіраванае вывучэнне архіваў Беларусі і былога СССР;

— прыцягненне сіл грамадскасці дзеля работы па стварэнні на тэрыторыі былога лагера смерці гісторыка-мемарыяльнай ахоўнай зоны;

— устанаўленне сувязі з міжнароднымі і замежнымі гісторыка-мемарыяльнымі арганізацыямі азначанага вышэй профілю, а таксама дзяржаўнымі структурамі іншых краін Еўропы, якія захоўваюць адпаведныя архіўныя матэрыялы, і Ізраіля, дзе знаходзіцца багацейшы збор матэрыялаў аб ахвярах фашызму;

— асветніцка-выхаваўчая дзейнасць у навучальных установах, сярод насельніцтва сталіцы і яе ваколіц, па магчымасці, у іншых рэгіёнах рэспублікі з мэтай усяляк спрыяць справе ўвекавечання памяці аб ахвярах генацыду і вайны, а таксама дзеля таго, каб нарэшце ў грамадстве ўсталяваліся належныя адносіны да гісторыка-мемарыяльнага помніка.



# БЫЛІ ЗАКАТАВАНЫ 300 СЕМ'ЯЎ

**Акт жыхароў горада Менска аб расстрэле нямецка-фашысцкімі захопнікамі мірных грамадзян, якія жылі ў горадзе па Арктычнай, Беламорскай і іншых вуліцах у верасьні 1943 г.**

**7 ліпеня 1944 г.**

Мы, што ніжэй падпісаліся, жыхары горада Менска хатняя гаспадыня Краўчанка Кацярына Рыгораўна, работніца кушнернай фабрыкі Красоўская Алена Вікеньцеўна, рабочы лямцавай фабрыкі Нэйман Мікалай Карлавіч і хатняя гаспадыня Келых Соф'я Рыгораўна, склалі гэты акт аб тым, што ў верасьні 1943 г. паводле загаду каменданта немцы забралі закладнікамі каля 300 савецкіх сем'яў, якія жылі па вул.Арктычнай, Беламорскай і інш. У 3 гадзіны ночы нямецкія патрулі акружылі раён гэтых вуліц. Жыхарам прапанавалі ў 6 гадзін раніцы выйсьці на праверку. Пры праверцы немцы адпусьцілі сем'і паліцэйскіх, а ўсіх астатніх на грузавых машынах павезьлі. Прадчуваючы сваю пагібель, жанчыны з дзецьмі на руках упрошвалі немцаў спыніць машыны і дазволіць перадаць дзяцей сустрэчным прахожым. Адна жанчына спрабавала выкінуць з машыны на рукі жанчын, якія праходзілі міма, сваё дзіця. Ва ўрочышчы Трасьцянец ужо былі загадзя падрыхтаваныя глыбокія, страшныя ямы, да якіх па адной падганялі машыны зь людзьмі. У лесе чуліся стрэлы, былі чутны жахлівыя крыкі, просьбы аб літасьці. Так былі расстраляны ўзятыя закладнікамі ўсе 300 сем'яў, а іхнюю маёмасьць немцы забралі сабе.

ПОДПІСЫ: Краўчанка Кацярына Рыгораўна, Красоўская Алена Вікеньцеўна, Нэйман Мікалай Карлавіч, Келых Соф'я Рыгораўна.



# «Я ЧУЎ КРЫКІ І СТОГНЫ ЛЮДЗЕЙ»

**(З паказаньняў сьведкі П.Н.Галавача, жыхара вёскі Вялікі Трасьцянец, брыгадзіра калгаса «Добраахвотнік» Менскага раёну)**

... Я быў відавочцам зьверстваў немцаў над мірнымі людзьмі незалежна ад полу і ўзросту. З першых дзён акупацыі Менскага раёну немцы ў раёне нашай вёскі і вёскі Малы Трасьцянец стварылі лагеры расстрэлаў і забойстваў савецкіх людзей. У мясцовасьці Благаўшчына, якая знаходзіцца на 12-м км шашы Менск-Магілёў, з восені 1941 г. і да восені 1943 г. немцы расстрэльвалі і закопвалі ў спецыяльна выкапаных ямах тысячы людзей. Я асабіста бачыў вельмі часта непасрэдныя расстрэлы, [чуў] стогны і крыкі людзей. Я асабіста бачыў, як немцы бралі дзяцей за ногі і забівалі аб кузавы машын. Я асабіста бачыў, як немцы трупы расстраляных у ямах утрамбоўвалі гусенічным трактарам, пасьля зноў накладалі трупы і так трамбоўку рабілі даверху. Людзей вазілі ў большасьці ў крытых вялікіх аўтамашынах, як мы іх звалі «чорны крумкач». Былі выпадкі, калі людзей у гэтыя машыны саджалі жывымі, а выцягвалі мёртвымі, таму я мяркую, што «чорныя крумкачы» прыстасаваныя зьнішчаць людзей шляхам удушэньня.

Я таксама быў відавочцам, як увосень 1943 г. усе ямы ў мясцовасьці Благаўшчына былі адкапаныя, трупы спаленыя, а попел кудысьці прыбраны. Для спальваньня трупаў былі мабілізаваны сяляне шэрагу воласьцяў (для падвозкі дроў). Мне вядома, што з урочышча Любаўшчына і Данілаўшчына было вывезена 5 тыс. куб.м дроў і з бору Апчак 2 тыс. куб.м.

Каля мясцовасьці Благаўшчына немцы на ўскрайку лесу, які знаходзіцца каля вёскі Малы Трасьцянец, зрабілі «печ», у якой спальвалі людзей... А перад самым адступленьнем, у канцы чэрвеня 1944 г., прыкладна 28 чэрвеня, немцы ў хлеў калгаса імя Карла Маркса наклалі даверху расстраляных людзей і спалілі. Я сам асабіста чуў крыкі і стогны людзей, якіх расстрэльвалі і спальвалі.

Павінен сказаць, што да «печы» ад шашы Менск-Магілёў немцамі была выбудавана спецыяльнае шашэйнае адгалінаваньне. Па гэтай дарозе вазілі людзей на расстрэлы і спальваньне.

... Мне вядома, што вясной 1942 г. у вёсцы Малы Трасьцянец Менскага раёну былі арыштаваны, павезены ў мясцовасьць Благаўшчына і расстраляны разам з сваімі сем'ямі: Башко Аляксандр, Шыманскі Аляксандр Мікалаевіч з жонкай і двума ці трыма дзяцьмі, Ганіч Адам з жонкай і дзяцьмі. Апрача таго было расстраляна шмат іншых асобаў з розных вёсак, але прозьвішчаў іх я ня ведаю.

# ЛАГЕР НЯМЕЦКАЙ ТАЙНАЙ ПАЛІЦЫІ Ў МАЛЫМ ТРАСЬЦЯНЦЫ

*З "Паведамленьня Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі па выяўленьні і расьсьледаваньні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў і іхніх саўдзельнікаў у масавым зьнішчэньні мірных грамадзян і савецкіх ваеннапалонных гітлераўцамі ў горадзе Менску і яго ваколіцах і аб разбурэньні горада ў перыяд фашысцкай акупацыі. 19 верасьня 1944 года".*

За 10 км ад Менска, каля вёскі Малы Трасьцянец, нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі канцэнтрацыйны лагер нямецкай тайнай паліцыі, у якім трымаліся асуджаныя на сьмерць мірныя грамадзяне. Ва ўрочышчы Благаўшчына, якое разьмешчана за 1,5 км ад лагера, яны расстрэльвалі зьняволеных у лагеры і трупы закопвалі ў траншэях. Восеньню 1943 г. з тым, каб утаіць сьляды сваіх злачынстваў, немцы распачалі раскопкі ямаў-магіл, даставалі зь іх трупы расстраляных і сталі спальваць іх. Жыхар вёскі Трасьцянец Галавач П.Н. бачыў, што «ў лесе Благаўшчына нямецкія каты забівалі мужчын, жанчын, старых і дзяцей; бачыў, як трупы забітых яны складалі ў загадзя падрыхтаваныя траншэі... утрамбоўвалі іх гусенічным трактарам, затым зноў клалі пласт забітых і зноў утрамбоўвалі. Восеньню 1943 г. немцы раскапалі траншэі ў Благаўшчыне і сталі спальваць выкапаныя трупы. На падвоз дроў для спальваньня трупаў яны мабілізавалі ўсе фурманкі з навакольных вёсак».

Для зьнішчэньня трупаў закатаваных савецкіх людзей акупанты восеньню 1943 г. пабудавалі спецыяльную крэмацыйную печ ва ўрочышчы Шашкаўка за паўкіламетра ад канцэнтрацыйнага лагера Малы Трасьцянец. Каваленка К.Е. і Карэта А.С., якія працавалі пры канцэнтрацыйным лагеры, паведамілі, што ў гэтай печы спальваліся трупы расстраляных і закатаваных у «душагубках». Штодня сюды прыбывала 3 — 5 аўтамашын, напоўненых людзьмі.

«Я штодзённа бачыў, — кажа жыхар вёскі Малы Трасьцянец Башко В.А., — як нямецкія бандыты на чале з камендантам лагера-гета катам Рыддэрам забівалі мірных грамадзян у лесе Шашкаўка і трупы забітых спальвалі ў печы. Непадалёку ад гэтай печы я пасьвіў жывёлу і часта чуў плач і мольбы людзей аб літасьці. Я чуў аўтаматныя чэргі, пасьля якіх спыняліся крыкі няшчасных».

Сьледчая камісія падрабязна азнаёмілася з крэмацыйнай печчу. У момант агляду печы ў ёй выяўлены рэйкі, на рэйках — лісты жалеза з адтулінамі і маса дробных перапаленых чалавечых касьцей. Да печы зроблены сьпецыяльны спуск для аўтамашын. Каля ўваходу ў печ выяўлены бочка і чарпак з рэштакамі смалы. Тут жа раскіданы рэчы расстраляных: абутак, вопратка, жаночыя кофты, галаўныя ўборы, дзіцячыя шкарпэткі, гузікі, грабяні, сьцізорыкі. Мяркуючы па велізарнай колькасьці страляных гільзаў і рэштках узарваных гранатаў, немцы расстрэльвалі асуджаных каля ўваходу ў печ і ў самой печы. Трупы абліваліся смалою і перакладаліся дрывамі. Для павышэньня тэмпературы ў печ закладаліся запальныя бомбы.

У сувязі з хуткім рухам на захад Чырвонае Арміі ў канцы чэрвеня 1944 г. гітлераўскія каты прыдумалі новы спосаб масавага зьнішчэньня мірных жыхароў. 29 — 30 чэрвеня яны сталі вывозіць зьняволеных з канцэнтрацыйных лагераў, а таксама трупы расстраляных у вёсцы Малы Трасьцянец. Трупы складалі штабелем у хляве, там жа немцы расстрэльвалі людзей і хлеў падпалілі.

Савінская С.І., якая ўратавалася ад сьмерці, засьведчыла сьледчай камісіі: «Жывучы на акупаванай тэрыторыі ў горадзе Менску, я 29 лютага 1944 г. разам з мужам, Савінскім Якавам Уладыслававічам была арыштавана нямецка-фашысцкімі захопнікамі і пасаджана ў менскую турму за сувязь з партызанамі. Пасьля доўгіх і пакутлівых катаваньняў, калі мы не прызналіся ў сваіх сувязях з партызанамі, нас з мужам у сярэдзіне траўня перавялі ў канцлагер СС, які знаходзіўся на Шырокай вул., дзе мы ўтрымліваліся да 30 чэрвеня 1944 г. У гэты дзень разам з іншымі жанчынамі ў колькасьці 50 чал. мяне пагрузілі ў аўтамашыну і павезьлі ў невядомым напрамку. Калі ад'ехалі прыкладна 10 км ад г.Менска, каля вёскі Малы Трасьцянец, аўтамашына спынілася каля аднаго з хлявоў. Тут мы ўсе зразумелі, што нас прывезьлі на расстрэл... Па камандзе нямецкіх катаў зьняволеныя жанчыны па 4 выходзілі з машыны. Неўзабаве чарга дайшла і да мяне. Я, разам з Галубовіч Ганнай, Сямашка Юляй і яшчэ адной жанчынай, прозьвішча якой не ведаю, узьлезла на верх укладзеных трупаў. Пачуліся стрэлы, я была лёгка паранена ў галаву і ўпала. Параненая, я працягвала ляжаць сярод трупаў да позьняга вечара. Потым я стала выбірацца з хлява. Убачыла параненых 2 мужчын, і мы ўсе ўтраіх вырашылі ўцякаць. Нямецкі канвой заўважыў гэта і распачаў стральбу. Мужчыны былі забітыя, а мне пашанцавала схавацца ў балоце. Там я прабыла 15 дзён, не ведаючы, што Менск ужо вызвалены Чырвонай Арміяй».

Пры аглядзе хлява ў вёсцы Малы Трасьцянец, спаленага немцамі, сьледчая камісія выявіла велізарную колькасьць попелу, касьцей, а таксама зьбярогшыяся трупы. Побач на штабелі бярвеньняў было 127 ня цалкам абгарэлых трупаў мужчын, жанчын і дзяцей. Паблізу пажарышча знойдзены рэчы асабістага ўжытку.

Судова-медычнай экспертызай выяўлены на трупах агнястрэльныя раненьні ў галаву і шыю. У хляве і на штабелях бярвеньняў немцы расстралялі і спалілі 6,5 тыс.чал.

... Ва ўрочышчы Благаўшчына выяўлены 34 ямы-магілы, замаскаваныя хвойным гальлём. Некаторыя магілы дасягаюць у даўжыню 50 м. Пры частковым ускрыцьці 5 магіл у іх на глыбіні 3 м знойдзены абвугленыя трупы і пласт попелу таўшчынёй ад 0,5 да 1 м. Паблізу ямаў камісія знайшла мноства дробных чалавечых касьцей, валасы, зубныя пратэзы і масу ўсемагчымых дробных рэчаў асабістага ўжытку. Сьледствам выяўлена, што тут фашысты зьнішчылі да 150 тыс.чал.

## ШАНОЎНЫЯ ГРАМАДЗЯНЕ!

*Для тых, хто падтрымлівае высакародныя ідэі гісторыка-мемарыяльнага фонду «Трасцянец» і мае намер спрыяць іх ажыццяўленню фінансавымі сродкамі, паведамляем нумары яго банкаўскіх рахункаў: 700004 Апера Мінскага гарадскога ўпраўлення Ашчаднага банка Беларусі, код 601 і валютны — 070036 у тым самым банку.*

*Усе фундатары фонду будуць пайменаваны ў спецыяльнай Кнізе памяці, якая запаўняецца для захавання ў філіяле Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў «Трасцянцы», а таксама ў друку.*

*Чакаем Вашай дапамогі!*

* * *

*Ахвяраванні на дзейнасць Гісторыка-мемарыяльнага фонду «Трасцянец» у апошні час даслалі:*

1. *Знешнегандлёвая фірма «Амкадор»*
2. *Народныя дэпутаты Мінгарсавета (па ініцыятыве спадароў А.Гурыновіча і І.Элімелаха)*
3. *Вучні, бацькі, настаўнікі сярэдняй школы N120 г.Менска*
4. *Акцыянерна-камерцыйны банк «Беларусь»*
5. *АТ «Мінскі гадзіннікавы завод»*
6. *Вытворча-камерцыйная фірма «Ісмар»*
7. *Супрацоўнікі Мінгарвыканкама*

*Шчыра дзякуем!*

Адказны за выпуск Яўген ЦУМАРАЎ.